ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 2 (2456) 11 студзеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## "ЗА СВАЁ ЧАЛАВЕЧАЕ І НАРОДНАЕ ПРАВА"



## КАЛІНОЎСКІ І БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

Беларуская нацыянальная ідэя, калі яе сфармуляваць у найбольш кароткай і агульнай форме, -- гэта ідэя суверэннасці беларускага народа, самакаштоўнасці яго унікальнага менталітэту і культуры. Ідэя права і абавязку беларусаў -- імкнуцца да такіх сацыяльных і дзяржаўных формаў, якія найлепшым чынам маглі б забяспечыць захаванне і далейшае развіццё нацыі, яе ўклад у скарбніцу ўсяго чалавецтва.

Як і кожная грамадская з'ява, нацыянальная ідэя вымагае пры сваім вывучэнні гістарычнага падыходу. Яна можа відазмяняцца, трансфармавацца ў часе і мець розныя формы і аспекты -- культурніцкія і палітычныя.

Высокія ідэі патрыятызму, служэння бацькаўшчыне, гонару за родную зямлю, побач з канстатацыяй сваёй адметнасці, выказваліся беларусамі на працягу стагоддзяў (Ф.Скарына, М.Гусоўскі, В.Цяпінскі, Л.Сапега, "Прамова Мялешкі", верш Я.Пашкевіча "Польска квітнет лаціною" і інш.). Асабліва важным у гэтых адносінах было XIX стагоддзе -- эпоха кансалідацыі нацый, калі мы выразна бачым на гістарычнай арэне спецыфічна беларускі культурны, а потым і палітычны рух. Лічыцца, што ў сучасных формах беларуская нацыянальная ідэя сфармулявана ў другой палове мінулага стагоддзя -- гоманаўцамі і асабліва выразна Ф.Багушэвічам у знакамітай прадмове да паэтычнага зборніка "Дудка беларуская" (1891).

(Працяг на 6-й стар.).

ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ТАЛІНЕ

## ЯК РАЗБЛЫТАЦЬ ЖЫЦЦЁВЫ КЛУБОК?

Эстонія сустрэла нас заходнім шыкам падрыхтоўкі да Калядаў і Новага года. Ілюмінацыя, Санта-Клаўсы маленькія і вялікія ў вітрынах і на вуліцах. Навагоднія сувеніры і музычныя цацкі, каля якіх натоўпы дзяцей, льготны распродаж усіх тавараў праходзіць не толькі ў старым горадзе, але і па ўсім Таліне. З 14 снежня ў Эстоніі ўсё робіцца для таго, каб у кожны дом прыйшоў калядны настрой і хоць невялікі падарунак.

Вось у гэты час тут праводзяцца Дні беларускай культуры, чарговае спатканне беларусаў Эстоніі з гасцямі з Беларусі -- фальклорным ансамблем з Мінска. Год таму таксама было спатканне, ідэя правядзення якога належыць Ніне Савінавай -- кіраўніку новага беларускага культурнага цэнтра (гэта была першая рэалізацыя яе даўняй вялікай задумы: паспрабаваць аб'яднаць усіх беларусаў Эстоніі і беларускія суполкі). На жаль, гісторыя беларускіх суполак у Эстоніі, як і ў многіх краінах, не вельмі добрая. Не знаходзяць паміж сабой паразумення, развальваюцца.

Многія тады аднесліся з песімізмам да гэтай ідэі і мелі на тое падставы. Некалькі чалавек браліся за гэтую справу, але з яе нічога не атрымалася. Савінава пачала з арганізацыі новага культурнага цэнтра, які б змог займацца сапраўды карыснымі і важнымі для беларускай дыяспары справамі, ствараць беларускія нядзельныя школы, рабіць перадачу на тэлебачанні, дапамагаць старым людзям, якія з-за візавага рэжыму не могуць трапіць у Беларусь, адкрыць інфармацыйны цэнтр, у які змаглі б звяртацца бізнесмены не толькі эстонскія, але і шведскія, фінскія, наладзіць турыстычны маршрут у Талін. Каб у гэты культ[illegible] цэнтр мог прыйсці кож[illegible]ларус...

Падтрымалі Савінаву адразу ж многія бізнесмены, эканамісты, інжынеры. Сярод іх нават юрыст, які працуе ў органах правапарадку на высокай пасадзе, -- камісар паліцыі Вяча[illegible] Пацэвіч. Вялікую дапа[illegible] арганізацыі цэнтра аказала Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

На першае спатканне сабралася многа людзей. Зала былога Дома афіцэраў флоту, які перададзены уладамі Эстоніі пад Рускі культурны цэнтр, была поўная. Тут прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрстваў культуры і замежных спраў Эстоніі, паслы розных краін у Эстоніі, прадстаўнікі армянскай, карэйскай, украінскай, рускай, азербайджанскай і іншых суполак нацыянальных меншасцяў. То быў вельмі цікавы вечар. І пад канец выступлення вядомага беларускага фальклорнага ансамбля "Крупіцкія музыкі" ўсіх прысутных перапаўнялі пачуцці. Адны плакалі ад радасці сустрэчы з даўно забытымі беларускімі песнямі і танцамі, сэрцы другіх былі перапоўнены гордасцю за нашых беларускіх артыстаў, якія пакарылі і эстонцаў, і рускіх, і ўкраінцаў... І доўга яшчэ ўспаміналі гэта свята ў Эстоніі...

Час ляціць хутка. Роўна год прайшоў пасля першага спаткання. Гэта быў час станаўлення новага аб'яднання і выпрабаванняў для яе кіраўніка Ніны Савінавай. Ці хопіць у яе сіл, каб быць увесь час наперадзе, ці стане яна тым чалавекам, які зможа павесці за сабой людзей і падыме беларускую справу?

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## І БЫЛО НАВАГОДНЯЕ СВЯТА



У звычных клопатах, у імклівых падзеях пабеглі дні новага, 1996 года. Усё так, як і было заўсёды. Але першыя дні студзеня -- гэта было свята.

*(Фотарэпартаж са свята на 8-й стар.).*

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ*

## МЯСА ПТУШКІ ПАТАННЕЕ

Мяркуючы па ўсім, мяса птушкі сёлета... танней. Ва ўсякім разе, такія рэкамендацыі -- аб зніжэнні адпускной цаны на птушку -- дадзены "Белптушкапрому" з боку Міністэрства гандлю. Размова ідзе аб невялікай скідцы -- усяго на тысячу рублёў за кілаграм, але для пакупнікоў гэта "выльецца" ў больш істотную суму, паколькі гандлёвым прадпрыемствам рэкамендавана зніжаць нацэнку на мяса птушкі пры аптовых закупках на 2 працэнты, пры розных -- на 5.

## САНАТОРЫЙ ДЛЯ ЧЫГУНАЧНІКАЎ

Першых адпачывальнікаў прыняў у Баранавічах санаторый-прафілакторый мясцовага аддзялення Беларускай чыгункі, уведзены ў строй напярэдадні Новага года.

Яго будаўніцтва працягвалася пяць гадоў. Пакуль у эксплуатацыю здадзены толькі лячэбны і спальны карпусы, а ўзвядзенне спартзалы і басейнаў яшчэ працягваецца.

На думку медыкаў, новая здраўніца -- адна з лепшых сярод санаторна-прафілактычных установ рэспублікі. Акрамя ўсяго іншага тут установлена самая сучасная імпартная апаратура і абсталяванне. Кошт жа пуцёўкі на 24 дні адпачынку складае крыху больш за два мільёны рублёў.

*"Сёння я яшчэ раз падкрэсліваю: мы будзем будаваць дэмакратычную, сацыяльна арыентаваную дзяржаву, планамерна ўдасканальваць эканоміку і духоўныя сферы для задавальнення матэрыяльных і культурных патрэбнасцей чалавека. Іншай меры каштоўнасці нашым пераўтварэнням няма!*

*Для ажыццяўлення планаў у надыходзячым годзе складваюцца спрыяльныя ўмовы: выбраны новы парламент, сфарміраваны апарат выканаўчай і судовай улады на ўсіх узроўнях. Такім чынам, у нас ёсць усе інстытуты дэмакратычнай дзяржавы.*

*У сувязі з гэтым я звяртаюся да беларускага народа і прапаную аб'явіць 1996 год годам нацыянальнай згоды і стварэння на карысць нашай Радзімы!*

*Я ведаю пра цяжкасці, якія перажываюць нашы людзі. Абяцаю ў першыя месяцы 1996 года аказаць вам, дарагія суайчыннікі, рэальную дапамогу і падтрымку ў паляпшэнні матэрыяльнага становішча.*

*Наступны год -- гэта не толькі год надзей і здзяйсненняў. У 1996 годзе споўніцца 10 гадоў з дня аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Наша дзяржава будзе праяўляць клопаты пра ўсіх, хто перажыў гэту бяду. Няхай такое не паўторыцца нідзе на зямлі".*

*(З навагодняга віншавання Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь беларускаму народу).*

*ФЕСТЫВАЛЬ У ВІЦЕБСКУ*



VII міжнародны музычны фестываль імя Івана Салерцінскага прайшоў у Віцебску. Яго ўдзельнікі пазнаёміліся з творчасцю Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь, ансамблем "Класік-Авангард", а таксама з вядомым расійскім кампазітарам, прафесарам Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі, сынам выдатнага рускага пісьменніка Аляксея Талстога -- Дзмітрыем Талстым. У рамках фестывалю прайшлі сустрэчы і з парыжскім кампазітарам П'ерам Марытонам.

НА ЗДЫМКУ: П'ер МАРЫТОН і Дзмітрый ТАЛСТОЙ (справа).

*НЯСВІЖСКІ КАЛЕДЖ*



Сваё дзесяцігоддзе адзначыў Нясвіжскі педагагічны каледж. Сюды цяпер могуць паступаць юнакі і дзяўчаты не толькі пасля дзевяці класаў, але і тыя, што скончылі поўны курс сярэдняй школы. На сённяшні дзень тут займаюцца 633 чалавекі. Гэта ў асноўным дзяўчаты з Мінскай вобласці. Выпускнікі каледжа ідуць працаваць настаўнікамі малодшых класаў.

НА ЗДЫМКУ: у старадаўнім будынку размешчана чытальная зала бібліятэкі.

*ІМІДЖ ДЗЯРЖАВЫ*

## СІСТЭМА "СПЕКТР"

У аэрапорце "Мінск-2" напярэдадні новага 1996 года ўведзена ў строй Аўтаматызаваная сістэма кіравання паветраным рухам "Спектр".

У гэтай знамянальнай для беларускіх авіятараў падзеі прыняў удзел Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. Высока ацаніўшы карпатлівую работу спецыялістаў, якія ўкаранілі і асвоілі новую сістэму, ён падкрэсліў, што яна з'яўляецца значным укладам у развіццё эканамічнага патэнцыялу рэспублікі і зможа істотна палепшыць імідж нашай маладой дзяржавы. Неба Беларусі -- гэта перакрыжаванне паветраных шляхоў. Нашай паветранай прасторай карыстаецца сёння больш за 200 авіякампаній з 70 дзяржаў свету. Забяспечыць бяспеку палётаў, якаснае абслугоўванне праходжання паветраных суднаў, дазволіць пасняхова ўключыцца ў сучасны міжнародны авіякасмічны комплекс -- у гэтым і ёсць асноўнае прызначэнне новай спецыялізаванай тэхнікі сістэмы "Спектр".

*КАНФРАНТАЦЫЯ*

## ЗАЯВА ДЭПУТАТАЎ

135 дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі трынаццатага склікання выступілі з наступнай заявай.

Як стала вядома дэпутацкім фракцыям і аб'яднанням Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання, якія фарміруюцца, са звароту да нас старшыні Канстытуцыйнага суда В.Г.Ціхіні, высокапастаўлены прадстаўнік адміністрацыі Прэзідэнта неафіцыйна звярнуўся да старшыні Канстытуцыйнага суда з патрабаваннем падаць у адстаўку. У адваротным выпадку, было сказана Валерыю Ціхіні, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сам здыме яго з пасады спецыяльным указам.

Факт процізаконнага ціску на Канстытуцыйны суд сведчыць аб тым, што пэўныя сілы ў акружэнні кіраўніка дзяржавы штурхаюць яго на новы віток канфрантацыі з іншымі галінамі ўлады. Такога роду ціск трактуецца артыкулам 126 Канстытуцыі як недапушчальны і цягне адказнасць па закону. Не можа не трывожыць тая акалічнасць, што спробы падобнага ўмяшання мелі месца і раней. Паўнамоцтвы старшыні Канстытуцыйнага суда могуць быць датэрмінова спынены пры наяўнасці адпаведных падстаў толькі Вярхоўным Саветам.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання выказваюць глыбокую заклапочанасць чарговым парушэннем з боку Адміністрацыі Прэзідэнта закладзенага ў Канстытуцыі прынцыпу раздзялення ўладаў. Абвастрэнне выклікае тым большае неўразуменне, што нагнятаецца напярэдадні першага пасяджэння Вярхоўнага Савета новага склікання. Па сутнасці сваёй гэтыя дзеянні аб'ектыўна накіраваны супраць кансалідацыі палітычных сіл і падрываюць асновы супрацоўніцтва, закладзеныя ў ходзе нядаўніх перагавораў Прэзідэнта з фракцыямі і аб'яднаннямі дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Дэпутаты выказваюць упэўненасць у тым, што Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка захавае разважлівасць і не пойдзе на крок, які вядзе да дэстабілізацыі сітуацыі. Вярхоўны Савет заклікае ўсе палітычныя сілы дзейнічаць толькі на падставе законаў і Канстытуцыі рэспублікі.

*УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА*

## ПАМЯЦЬ ПРА З. АЗГУРА

У мэтах увекавечання памяці народнага мастака СССР Героя Сацыялістычнай Працы Заіра Азгура Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка пастанавіў стварыць на базе былой творчай майстэрні З.Азгура ў доме № 4 па Трактарнаму завулку ў горадзе Мінску мемарыяльны музей З.І.Азгура -- філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

Імя З.Азгура будзе прысвоена Сенненскай сярэдняй школе N 1, і на магіле З.Азгура на Маскоўскіх могілках у Мінску будзе ўстаноўлены помнік мастаку.

*КЛІМАТ БЕЛАРУСІ*

## ВЯЛІКАЕ ПАЦЯПЛЕННЕ

Паводле даных члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі Уладзіміра Логінава, клімат Беларусі характарызуецца "грандыёзным зімовым пацяпленнем", падобнага якому не было за ўсю гісторыю назіранняў надвор'я на тэрыторыі рэспублікі, гэта значыць, ва ўсякім разе, тры стагоддзі.

Якасна гэта праяўляецца ў тым, што ў апошнія сем гадоў сярэдняя тэмпература зімовай пары была на 7 градусаў вышэйшай, чым раней.

Што гэта азначае для энергетыкі! У адказе на пытанне дапамог разабрацца вядучы інжынер Аб'яднанага дыспетчарскага ўпраўлення Беларускай энергасістэмы Георгій Хартановіч. Паводле яго звестак, паніжэнне тэмпературы на 10 градусаў супраць нармальнай зімовай, пры якой штосутачна расходуецца каля 60 тысяч тон умоўнага паліва, патрабуе дадатковага расходу 1,5 тысячы тон умоўнага паліва на электраэнергію і столькі ж -- на цяпло. Нескладана падлічыць, што сем цёплых зім запар дазволілі энергетычнай гаспадарцы рэспублікі зэканоміць каля 1 мільёна 323 тысяч тон умоўнага паліва. Гэта якраз адпавядае той колькасці дзяржаўнага рэзерву мазуту, якая патрабуецца для электра- і цэнтралізаванага цеплазабеспячэння рэспублікі на працягу адной зімы. У грашовым выражэнні эканомія склала каля 80 мільёнаў долараў.

*НА МІЖНАРОДНЫМ АЛІМПЕ*



Для Святланы Багданавай і Мікалая Іванова 1995 год пакінуў светлую старонку: майстры-цырульнікі з Віцебска прынялі ўдзел у міжнародным конкурсе ў Парыжы і занялі дзесятае і пятнаццатае месцы. Гэта не так ужо і блага, бо ў фестывалі-конкурсе моды прычосак "Залатая ружа" прымалі ўдзел 100 лепшых майстроў сваёй прафесіі з 24 краін свету.

*НАВАГОДНІ ПАДАРУНАК*

## НАРАДЗІЛАСЯ ТРОЙНЯ

Случчане вадзіцель Васіль і бухгалтар Наталля Сыцько з хваляваннем чакалі дзіця. Маці ўжо споўнілася 32 гады. І тут такая радасць. Амаль на Новы год лёс падараваў шчаслівым бацькам трайнят -- двух дзяўчынак і хлопчыка. Як і належыць мужчыну, Арцём нарадзіўся з самай вялікай вагой -- 2 кілаграмы 870 грамаў. Дзяўчынкі Алёна і Алеся важаць адпаведна 2 кілаграмы 200 і 2 кілаграмы 110 грамаў.

У мінулым годзе ў Слуцку нарадзіліся аж тры тройні.

НОВЫ СТАРЫ УНІВЕРМАГ

# "УСПЛЕСК АРХІТЭКТУРНАЙ ДУМКІ Ў ЦЭНТРЫ ГОРАДА"





Цэнтральны універмаг "Мінск", або проста ЦУМ, у краіне ведаюць амаль усе. Гэта адно з найстарэйшых і найбуйнейшых гандлёвых прадпрыемстваў Беларусі. У мінулым годзе універмаг адзначыў сваё трыццацігоддзе. Некалі, у часы дэфіцыту, у ім часцей, чым у іншых крамах, можна было набыць фацэтную замежную сукенку ці боты, праўда, згубіўшы пры гэтым гадзіну, дзве ці тры ў вялізнай чарзе. Прыкмета савецкіх часоў — чарга — ужо не тыповая ні для ЦУМа, ні для іншых крамаў. Забылася ўжо і само слова "дэфіцыт". Штодзённа ЦУМ наведвае каля 60 тысяч пакупнікоў. Кожны з іх, у залежнасці ад таго, колькі ў яго кішэні грошай, мае магчымасць выбраць нешта для сябе з 20 тысяч назваў тавараў універмага. Дзённая выручка ад рэалізацыі іх складае тут 660 мільёнаў рублёў.

За 30-гадовае існаванне шмат што змянілася ў працы прадпрыемства. Відавочна, што фарміраванне рынкавых адносін у краіне не магло на ім не адбіцца. Пры планавай гаспадарцы кіраўніцтву не трэба было занадта клапаціцца, *дзе знайсці тавар, як яго прадаць*. Міністэрства гандлю замацоўвала за ЦУМам пэўныя прадпрыемствы, а таксама аптовыя базы, і за гэтыя рамкі нельга было выйсці. З аднаго боку, гэта абмяжоўвала дзейнасць прадпрыемства, з другога, забяспечвала ціхае бестурботнае існаванне.

"Сёння ўсё змянілася і ўсё залежыць толькі ад нас саміх і нашай уласнай ініцыятывы", — гаворыць загадчык аддзела арганізацыі гандлю Ігар Александровіч. — Мы самі шукаем тавар, вызначаем яго колькасць і асартымент. Мы выбіраем рэчы толькі з сертыфікатам якасці і з улікам попыту пакупнікоў. Нашымі партнёрамі сёння з'яўляюцца 136 вытворчых прадпрыемстваў Беларусі, 7 аптовых баз, 300 іншых фірмаў і кампаній".

Відавочна, што за 30 гадоў як вонкавы выгляд будынка, так і сістэмы жыццезабеспячэння універмага, гандлёвае абсталяванне маральна састарэлі. Больш таго, за гэты тэрмін у паўтара раза павялічылася колькасць супрацоўнікаў, значна пашырыўся асартымент тавараў, якія патрабавалі новай плошчы. Менавіта таму было прынята рашэнне аб рэканструкцыі будынка з павелічэннем колькасці паверхаў. Яна пачалася ў 1990 годзе, і першая чарга яе скончана ў верасні мінулага года. Нават пасля першага этапа гандлёвая зала раўняецца плошчы амаль усяго старога будынка і складае 3 750 квадратных метраў. Будаўніцтва другой паловы ЦУМа плануецца скончыць у 1997 годзе, і супрацоўнікі бачаць яго сапраўдным супермаркетам. У ім плануецца адкрыць вялікую прадуктовую секцыю. Нават цяпер тут можна атрымаць 2[illegible]уг, сярод якіх даведка аб наяўнасці тавараў, пункты абмену валют, майстэрня, у якой можна падагнаць вопратку да патрэбнага памеру. Ва універмагу працуе кафэ, бар, плануецца яшчэ адкр[illegible]ь медпункт, цырульню, спартыўн[illegible]лу і г.д.

ЦУМ — прадпрыемства дзяржаўнае, але ніякай падтрымкі ад дзяржавы не мае. Ён знаходзіцца на поўным гаспадарчым разліку, і заробак яго супрацоўнікаў залежыць ад прыбытку. Калектыў увесь час працуе над павелічэннем тавараабароту, які за мінулы год павялічыўся у 1,5 раза. Рэнтабельнасць складае 4,5 працэнта. Дарэчы, будаўніцтва вядзецца толькі за кошт банкаўскіх крэдытаў і ў[illegible]ых сродкаў прадпрыемства. У вынік[illegible] пасля рэканструкцыі ўся гандлёвая плошча ЦУМа павінна скласці 8,5 тысячы квадратных метраў, а тавараабарот павялічыцца амаль удвая. Ужо цяпер ёсць прапановы на пастаўку тавараў для новай часткі будынка. ЦУМ браў [illegible] у шэрагу міжнародных кірмашоў, а таму шмат спадзяванняў на пастаўшчыкоў з блізкага і далёкага замежжа.

Аб архітэктурнай вартасці новага будынка ЦУМа ідуць спрэчкі: адным ён падабаецца, іншыя яго не ўспрымаюць. Аўтар інфармацыйнага даведніка "Гарадскоп" назваў яго "ўсплёскам архітэктурнай думкі ў цэнтры горада". Тым не менш, арыгінальнасць праекта бясспрэчная, пэўна, іншага такога будынка ў Беларусі няма. Супрацоўнікам універмага ён падабаецца, таму што працаваць у ім стала больш камфортна і зручна. Пакупнікі таксама ім задаволены, бо тут пад адным дахам можна набыць літаральна ўсё неабходнае, што значна зберагае іх час. Прыемна ўсё ж назіраць, як савецкі гандаль зрушыў нарэшце з месца і паціху-памалу робіць крок наперад да сусветных стандартаў.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: рэстаўрыраваны будынак ЦУМа (знешні выгляд); у адной з гандлёвых залаў.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

НАВУКА І ВЫТВОРЧАСЦЬ

# *ПАЙШЛІ НА ЗАХАД. І З ПОСПЕХАМ*

Раней для вытворчасці такога складанага і унікальнага абсталявання па рашэнню партыйнага камітэта і ўрада пабудавалі б завод з шматтысячным персаналам і ўсёй жыццезабяспечваючай інфраструктурай, з абавязковым канструктарскім бюро і "прышпіленымі" да яго пад распрацоўкі па заказах акадэмічнымі і галіновымі інстытутамі. Вялася б уся праца пад кантролем самых высокіх інстанцый.

Але рынак, што нараджаецца, прымусіў зірнуць на праблему па-іншаму. Сказаць — па-заходняму было б няправільна, паколькі азначала б капіраванне чужых тэхналагічных мадэлей. А было так.

У акадэмічным Фізіка-тэхнічным інстытуце доўгі час займаліся даследаваннямі і распрацоўкай тэхналогіі клінавай пракаткі. Але сувязь навукі з вытворчасцю — адно з самых слабых месцаў у эканамічным арганізме краіны. І тады група таленавітых распрацоўшчыкаў перайшла пад крыло Беларускага політэхнічнага інстытута (цяпер — акадэмія), каб вырашыць гэтую вечную праблему. Прыкладна так утварыўся навукова-інжынерны цэнтр "Белтэхналогія". І сёння мала хто ведае, што ў адным з невялікіх карпусоў БДПА размяшчаецца цэнтр прадпрыемства, здольнага выпускаць найноўшыя станы клінавай пракаткі ў неабмежаванай колькасці. Працуе ж тут ўсяго 60 чалавек... Расказвае Уладзімір САДКО, дырэктар НІЦ "Белтэхналогія":

— Калі мы гаворым пра "неабгрунтаваную колькасць", то маем на ўвазе мінімальныя ці максімальныя патрэбнасці рынку. Колькі трэба — столькі і зробім. Мы правялі свой маркетынг і высветлілі: патрэбы прадпрыемстваў Беларусі ў нашым абсталяванні складаюць у сярэднім 5-6 станаў у год, Расіі — да 30. Партфель заказаў у нас вялікі, але бяда ў тым, што як айчыннаму, так і "эсэндэшнаму" спажыўцу няма чым плаціць. Напрыклад, Мінскі мотавелазавод за стан клінавай пракаткі разлічыўся веласіпедамі, якія нам самім давялося і рэалізоўваць.

Калі коратка гаварыць аб узроўні распрацовак "Белтэхналогіі", то яны цалкам канкурэнтаздольныя літаральна па ўсіх параметрах, маюць ноў-хаў. Таму ў сілу абмежаванасці ўнутранага рынку мы звярнулі позірк на Захад. Летась прадалі ў Германію ўжо 6 станаў па 120 тысяч марак. Гэта, вядома, танней за замежныя аналагі: цана на сусветных рынках залежыць ад аўтарытэту фірмы, яе маркі, а нашу фірму там мала хто ведае. Тым не менш, шлях да вядомасці з цяжкасцю, але пракладваецца. Дзеля гэтага пазалетась НІЦ удзельнічаў у Гановерскім кірмашы. Прычым не з праспектамі на століку, а з дэманстрацыяй абсталявання ў дзеянні, з падключэннем да энергакрыніц. Ля стэнда "Белтэхналогіі" ўсе дні тоўпіліся спецыялісты.

І як вынік, у нашай маладой фірмы з'явіліся заходнія заказчыкі, у Германіі знайшоўся партнёр, які пажадаў стаць афіцыйным дыстрыб'ютарам "Белтэхналогіі". Яшчэ адна прыемная прапанова паступіла з Амерыкі, дзе ёсць магчымасць паказаць беларускі стан клінавай пракаткі.

А цяпер — аб больш празаічных і будзённых рэчах: як фірма "Белтэхналогія" за тры гады здолела выйсці на сусветны рынак? Галоўная ўмова поспеху, безумоўна, — узровень распрацовак, прычым не на стадыі даследаванняў і праектавання, а ў дзеючых, апрабіраваных узорах. Узровень, які забяспечвае канкурэнтаздольнасць.

Другая ўмова — вытворчасць. Гэтую праблему вырашылі проста: заключылі ўзаемавыгадныя дагаворы на выраб асноўных вузлоў з прамысловымі прадпрыемствамі. Зборку арганізавалі на сваёй пляцоўцы ў БДПА. І вытворчасць рабочага інструменту таксама — гэта сэрца стана. Асноўнымі партнёрамі "Белтэхналогіі" сталі Мінскі станкабудаўнічы завод, дзе ёсць магчымасць разгарнуць вялікую вытворчасць станкоў, і Гомельскі завод гідраапаратуры. Знайшлі пастаўшчыкоў электронікі. Паколькі прадпрыемствы цяпер шмат прастойваюць, то былі рады заказам "Белтэхналогіі", тым больш, што фірма плацежаздольная. У Смалявічах НІЦ арганізаваў вытворчасць дэталей — завод, які дзейнічае як звычайнае прамысловае прадпрыемства і дае прыбытак. А ўсяго над выкананнем заказаў фірмы працуе ўжо 300 чалавек. Можа быць задзейнічана і больш, але тут ужо ўсё залежыць ад магчымасцей рынку "пераварыць" канчатковую прадукцыю.

Маркетынг — трэцяя ўмова поспеху. Ім у "Белтэхналогіі" пакуль займаюцца сам кіраўнік і яго сакратар.

Калі па просьбе магілёўчан, якія ствараюць свой тэхнапарк, нямецкія спецыялісты пабывалі ў "Белтэхналогіі", яны здзівіліся і сказалі: "Тут і ёсць тэхнапарк. Не варта вам мудрыць".

**Васілій РОШЧЫН.**

# ЯК РАЗБЛЫТАЦЬ ЖЫЦЦЁВЫ КЛУБОК?



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Многіх хвалявала гэтае пытанне. Вынікам працы стаўся ўдзел у святе краіны "Славянскі вянок", за які наш беларускі фальклорны ансамбль быў узнагароджаны прызамі, а адзін з актыўных арганізатараў Ніна Савінава атрымала спецыяльную прэмію — Беларускі культурны цэнтр, свой офіс у Рускім культурным цэнтры. Гэта каля 100 квадратных метраў.

І яшчэ адзін вынік гэтай працы — новае спатканне, свята беларусаў, якое становіцца тут традыцыйным.

Самаахвярная праца заўсёды знаходзіць прыхільнікаў. У першую чаргу ім стала Міністэрства культуры ў асобе начальніка Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці спадара Тадэвуша Стружэцкага, высокаадукаванага спецыяліста ў галіне культуры.

Гэта і з яго дапамогай адбыліся сёлета паездкі нашых мастацкіх калектываў у беларускія суполкі Польшчы, Латвіі, Літвы, Эстоніі. Ён разумее, якое вялікае свята для людзей, адарваных ад Беларусі, сустрэча з Радзімай. І гэтым разам ён, як і ў мінулым годзе, здолеў падрыхтаваць усё так, каб у людзей засталіся ўспаміны надоўга. Гэта і фальклорны ансамбль "Шчодрыца" (існуе, дарэчы, толькі адзін год, кіраўнік яго -- дэкан факультэта універсітэта культуры Валянціна Трамбіцкая), які так выдатна змог перадаць каларыт музыкі Палесся. Гэта і выстава-продаж вырабаў народных майстроў, якую прывезла дырэктар Цэнтра беларускіх народных рамёстваў Ірына Сініца. Роспіс, вырабы з саломкі, лазы, лёну, ткацтва, трыкатажныя вырабы — усё выклікала вялікую цікавасць і захапленне.

Але асаблівы поспех (як, дарэчы, і ўсюды, дзе бывала ў розных краінах свету) мела наш народны майстар пякарскай скульптуры Валянціна Уласік. Яе прыродны талент так змог рэалізавацца ў выпечцы, што нават цяжка ўявіць, як на адным вялізным каравай можна ўбачыць увесь вясельны беларускі абрад. Жаніх і нявеста, бацькі, музычны ансамбль, вавёрачкі (каб не круціліся), мядзведзі (каб былі здаровыя), птушкі (каб спявалі ўсё жыццё), і ўсё ў колеры. І вясельны каравай "Лебядзіная вернасць", які, дарэчы, на аўкцыёне купілі за 80 долараў.

Дапоўніў усё афармленне, канешне ж, гармонік. Іван Слізкі, працуючы перакладчыкам, піша музыку да вершаў І.Цітаўца (іх друкуе "Голас Радзімы"), гэта музыкант, што называецца, ад прыроды. Калі ён са сваім гармонікам сустракаў гледачоў у фае, людзі адразу пачыналі прытанцоўваць.



А вечар працягваўся. Са сцэны гучалі прывітанні: беларускага консула Івана Бондара, прадстаўніка Міністэрства культуры Эстоніі, старшыні Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганны Сурмач, суполак рускай, украінскай...

Добра знаёмыя нам БЭЗаўцы з Йыхві ўзялі значны ўдзел у праграме. Дзяўчаты спявалі песні, а беларускі паэт Валодзя Дзехцярук чытаў свае вершы. Прэзентацыя яго кнігі "Сярод белых эстонскіх начэй" была тыдзень назад, яе дапамагалі арганізоўваць і талінскія суполкі, і консульства, і мастакі суполкі "Маю гонар". Гэтая кніга заслугоўвае асаблівай увагі. Усе вершы яе пранізаны любоўю да Беларусі, успамінамі пра яе, трывогай за яе, сучасную і будучую, за лёс роднай мовы. Лёс паэта — лёс многіх беларусаў, якія апынуліся па-за межамі Бацькаўшчыны. Зала ціхенька паўтарала за ім: "Беларусь! Ты далёка-далёка, не разблытаць жыццёвы клубок... я стаю, а па небе аблокі, быццам думкі, плывуць у твой бок".

Закончыўся вечар начным аглядам Таліна ва ўтульнай зале наверсе тэлевежы. Гарэлі свечкі, уздымаліся бакалы шампанскага. Тут унеслі свой фінансавы ўклад беларускія бізнесмены, якія былі побач з Савінавай пры правядзенні імпрэзаў. Дарэчы, яны вельмі адрозніваюцца ад нашых прадпрымальнікаў сваёй самастойнасцю, упэўненасцю ў сваім фінансавым становішчы, у будучыні, і падставы для гэтага ёсць. У Эстоніі створаны добрыя ўмовы для бізнесу -- гэта палітычная стабільнасць, грашовая рэформа пасля 1992 года, паслядоўная прыватызацыя дзяржаўных прадпрыемстваў у ходзе міжнародных прыватызацыйных тураў, нізкія падатковыя стаўкі, добрыя ўмовы наземнага, воднага, паветранага транспарту.

Складанае жыццё ў Эстоніі ва ўсіх, хто не ведае эстонскую мову. Але ж дзякуючы такім цудоўным мерапрыемствам, пазнаўшы бліжэй культуру іншых народаў, з якімі эстонцы жывуць побач, пабачыўшы, што гэты народ памятае сваю мову, культуру, гісторыю, пачынаюць ставіцца з павагай да іх, як гэта адбылося з беларусамі. Доўга яшчэ не хацелі разыходзіцца людзі. Адны размаўлялі і знаёміліся з тымі, хто прыехаў, другія набывалі сувеніры, а кіраўнікі беларускіх суполак падводзілі вынікі сваёй працы і абмяркоўвалі планы на будучыню.

**Ніна ПЕТУХОВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: фальклорны гурт "Шчодрыца" Мінскага дома настаўніка на вечарыне "Спатканне".**

# КАЛІНОЎСКІ І БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Але па сутнасці ў той або іншай ступені нацыянальная ідэя, яе зародкі, прысутнічае ў дзейнасці і творчасці ці не кожнага беларускага дзеяча XIX стагоддзя, кожнага, хто браў у рукі беларускую ліру, пачынаў збіраць нацыянальныя памяткі, задумваўся пра месца беларусаў сярод народаў свету, -- Я.Баршчэўскага, М.Баброўскага, Я.Чачота, П.Шпілеўскага, А.Кіркора, А.Вярыгі-Дарэўскага, ужо не кажучы пра такога буйнога пісьменніка, як В.Дунін-Марцінкевіч. У сувязі з гэтым не магу пагадзіцца з думкай маладога даследчыка А.Латышонка, выказанай не так даўно ў артыкуле "Беларуская нацыянальная ідэя" (час. "Сьвіцязь", 1994, N 2): "В.Дунін-Марцінкевіч быў БЕЛАРУСКІМ паэтам, але не быў беларускім НАЦЫЯНАЛЬНЫМ паэтам..." Ці не штучным, надуманым з'яўляецца гэтае супрацьпастаўленне? Як можна сцвярджаць такое, калі Дунін-Марцінкевіч -- для гісторыкаў культуры гэта відавочна — цэлая эпоха ў мастацкім развіцці беларускага народа? Больш слушнай здаецца формула акадэміка І.Навуменкі ў яго нядаўняй манаграфіі пра аўтара "Гапона" і "Пінскай шляхты": "Ён быў беларускім пісьменнікам, і гэтым усё сказана. Ён ганарыўся сваёй іменна беларускай вядомасцю і свядомасцю".

Надзвычай важным гістарычным звяном у працэсе кансалідацыі беларускай нацыі і выпрацоўкі нацыянальнай ідэі бачыцца нам і Кастусь Каліноўскі.

Быць можа, няпроста адшукаць у яго на гэты конт адну прамую ёмістую формулу. Хіба ў паролі віленскай рэвалюцыйнай арганізацыі, на чале якой стаяў Каліноўскі: "Каго любіш? -- Люблю Беларусь. -- Так узаемна!" Або ў апошнім звароце да роднага народа з-пад царскай вісельні: "... цэлай грамадой ідзі ваявацi за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную" (цытуем паводле аўтографа, знойдзенага Уладзімірам Казберуком у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве). З кантэксту як гэтага выказвання, так і ўсёй творчасці Каліноўскага відаць, што пад "чалавечым і народным правам" ён мае на ўвазе сацыяльныя і нацыянальныя правы свайго народа. І, зразумела ж, усё гэта вельмі блізка да формулы нацыянальнай ідэі, як яна прагучыць трохі пазней у нашаніўскі перыяд -- людзьмі звацца, звацца беларусамі.

З другога боку, у творчасці і дзейнасці Каліноўскага без цяжкасці знаходзім усе неабходныя элементы-чыннікі, з якіх гэтая ідэя складваецца.

Па-першае, Каліноўскі сам быў носьбітам народнай культуры, увасабленнем лепшых рысаў нацыянальнага характару, ён па-сыноўску ведаў і любіў родную беларускую мову, віртуозна карыстаўся ёю ў сваёй творчасці, рабіў усё магчымае для пашырэння сферы яе ўжывання. Сваёй "Мужыцкай праўдай", "Пісьмамі з-пад шыбеніцы" ён не толькі даказваў наяўнасць сярод народаў свету беларусаў, не толькі выказаў іх сацыяльныя і нацыянальныя памкненні, як яны бачыліся ў эпоху падзення прыгонніцтва, але і ўнёс значны, адметны ўклад у станаўленне новай беларускай літаратуры, у выпрацоўку беларускай літаратурнай мовы новага часу. Ужо пасля вынясення смяротнага прысуду ён піша ў турме развітальны верш да нявесты Марыі Ямант. Надзвычай характэрная рэч -- верш гэты таксама напісаны па-беларуску. Які яшчэ патрэбны доказ таго, што адносіны Каліноўскага да беларускай мовы -- гэта не адносіны нейкага палітычнага разліку, а самыя натуральныя і арганічныя. Ён пастаянна выпраменьваў і ствараў вакол сябе беларускую аўру. І не згубіў гэтай якасці нават у часіну смяротнага выпрабавання.

У наш складаны час пад маркай барацьбы за "гістарычную ісціну" робяцца спробы паставіць пад сумненне сувязь Каліноўскага з беларускім народам, значэнне выдатнага змагара ў выпрацоўцы беларускай нацыянальнай ідэі. Той-сёй гаворыць (спашлёмся на "ЛіМ" ад 7.12.1990), што ў "Мужыцкай праўдзе" ні разу не называюцца беларусы, Беларусь. Гэта праўда, там паўсюль фігуруюць, здавалася б, не акрэсленыя ў нацыянальных адносінах "дзецюкі", але ці можна рабіць адсюль вывад, што Каліноўскі быццам бы не бачыў самабытнасці беларускага народа, не дапускаў магчымасці, што беларусы могуць жыць самастойна, не ставіў пытання аб навучанні на беларускай мове і г.д.? Памылковасць падобнай думкі давесці зусім не цяжка. Ад імя беларусаў Каліноўскі зусім пэўна выступае ў "Пісьмах з-пад шыбеніцы". Успомнім пачатак гэтага выдатнага твора: "І да нашага кутка даляцела ваша Газэтка, і мы яе з увагай прачыталі, вельмі яна ўсім спадабалася, бо праўда напісана. Прыймеце для таго на. адзяку, а пісьмо аддрукуйце, каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваёй сіле дабівацца будуць". Ёсць у "Пісьмах з-пад шыбеніцы" і такія радкі, дзе параўноўваюцца пазіцыі польскіх паўстанцаў ("ронд польскі") і расійскага царызму (які часам пазначаўся ў тэкстах Каліноўскага словамі "маскаль", "Масква", хаця значэнне іх гэтым не абмяжоўвалася) у нацыянальным пытанні: "Калі ронд польскі ўсім братнім народам дае самарондства, маскаль мала таго, што гэтак не робіць, но яшчэ там, гдзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах учаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да па-беларуску, як народ таго хоча..." Як бачым, тут ставіцца пытанне не толькі пра навучанне на роднай мове, але і пра "самарондства" беларусаў, як і літоўцаў. Надзвычай цікавы наватвор Каліноўскага "самарондства" заключае ў сабе цэлую канцэпцыю: яго можна разумець не толькі ў вузкім сэнсе, як самакіраванне, але і шырэй — як прызнанне і патрабаванне суверэннасці народаў, што ўваходзілі ў колішнюю Рэч Паспалітую. Тое, што А.Герцэн на лонданскіх перагаворах з прадстаўнікамі варшаўскага ЦНК называў "самозаконностью провинций". (Зазначым у дужках, што ў 20-я гады, на новай хвалі нацыянальнага адраджэння, нашы лінгвісты сканструявалі вельмі блізкі да слова Каліноўскага наватвор "самаўрад" са значэннем "аўтаномія, самакіраванне", і гэта яшчэ раз пацвярджае як палітычнае, так і філалагічнае чуццё "атамана мужыцкай праўды"). Тыя ж надзвычай важныя, прынцыповыя палажэнні, што і ў "Пісьмах з-пад шыбеніцы", знаходзім і ў інспіраванай Каліноўскім газеце "Глос з Літвы", якая выходзіла за межамі краю ў Кёнігсбергу (дарэчы, для гэтай жа газеты прызначаліся і "Пісьмы з-пад шыбеніцы", прынамсі, першая іх, самая вялікая, частка). Звернем увагу на наступны тэкст у N 4 газеты ад 20 сакавіка 1864 года (перакладаем з польскай): "Раўнапраўе народнасцей, станаў, вызнанняў -- гэта імкненне, заключанае ў глыбіні сэрца ўсяго люду, імкненне моцнае, якое зрабілася моцнай воляй. Пад маскоўскім панаваннем гэтае імкненне і моцная воля наша не можа быць спатолена... Масква праследуе мову польскую, беларускую, маларускую, літоўскую і навязвае маскоўскую; мы хочам, каб кожная мова развівалася паводле ўласнай жыццяздольнасці: і літоўская, і беларуская, і маларуская, і польская".

Уладзімір Калеснік у сваёй багатай на думкі і канцэптуальныя палажэнні кнізе "Тварэнне легенды" справядліва адзначыў, што Каліноўскі першы назваў беларусаў народам. Прынамсі першы ён зірнуў на беларусаў як на суб'ект самастойнага гістарычнага дзеяння. Адносіны Каліноўскага да беларускага народа нейкія інтымныя, вельмі душэўныя і свойскія. Можна сказаць, ён ставіўся да беларускага народа як да нейкай блізкай яго сэрцу жывой і нібыта роўнай яму істоты. Нязмушанае "народзе" або нават з пачцівай вялікай літары "Народзе" (як уласнае імя) -- адно з любімых слоў Каліноўсага. А то ён мог сказаць пяшчотна: "Мой дарагі народзе". І нават патэтычна: "ты, народзе вялікі і чэсны" (усе цытаты з "Пісьмаў з-пад шыбеніцы"). У апошнім выпадку ён нібы падсвядома пераносіў на беларусаў, на ўвесь народ, якасці, у высокай ступені характэрныя і для яго самога. Ды па сутнасці кожны заўсёды мерае той мерай, на якую здольны.

Каліноўскі бачыў пераважна сялянскі характар беларускага народа, беларускай нацыі тых часоў, як бачыў гэта трохі пазней і Я.Купала, які пісаў у адным з артыкулаў 1919 года пра сумныя вынікі паланізацыі роднага краю: "Масы, народ земляробны, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі" (Купала Я. "Жыве Беларусь". Мн., 1993, с. 306). Так і Каліноўскі называў беларусаў "мужыцкім народам" ("Бывай здаровы, мужыцкі народзе..."). У гэтым кантэксце прачытваецца (прынамсі, можа прачытвацца) і выраз "мужыкі Беларусы" з прыведзенага ўжо пачатку развітальных "Пісьмаў...".

Беларуская нацыянальная ідэя заключалася ўжо ў самой рэвалюцыйна-дэмакратычнай стратэгіі Каліноўскага. Паслядоўны радыкал, ён — прынамсі ў тэорыі — скідваў з гістарычнай сцэны дваранства, шляхту, "баярства" (калі ўжыць выраз Я.Купалы).

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**(Працяг будзе).**

## І БЫЛО НАВАГОДНЯЕ СВЯТА





(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Радаваліся людзі і цешылі сябе кволай надзеяй: а можа хоць крыху стане лягчэй у новым годзе! Нягледзячы на сцюжу і траскучыя маразы, вабілі да сябе вуліцы, паркі і плошчы сталіцы, дзе зіхацелі ў навагоднім убранстве ёлкі, дзе адбываліся святочныя прадстаўленні мастацкіх калектываў.

Гэта цяпер пацяклі будні.

А спачатку было свята. Такім яго ўбачыў у Мінску наш фотакарэспандэнт Віктар СТАВЕР.



Яўген ГУЧОК

## "ЗАЎЖДЫ МЫ ХІЛІМСЯ..."

***

Маўчанне наша
Агучванню не паддаецца,
Бо ў ім няма нічога.

***

Уся наша вастрыня у тым,
Што бышцам на калку сядзім мы
Вострым.

***

А тонкасць наша --
Ні больш-ні менш,
Як цэлафанавая тонкасць.

***

"Звышсціпласць"
наша дазваляе
Не нам, а іншым
Для нас дарогі выбіраць.

***

Наперад на карачках
мы ідзем,
Назад жа --
На злом галоў імчымся.

***

І мы, нібыта ў хованкі,
Прыйшлі гуляць
У гэты свет.

***

Няхай мы -- толькі абалонка,
Але ж бяда, што і
ўнутры яе --
Нічога.

***

Шукаем адзінакроўства --
Адзінаглупства
Знаходзім.

***

Кожны хоча, каб колер свой
Распаўсюдзіць на нас,
А мы падстаўляемся.

***

А яшчэ радаслоўная наша
ад тых,
Хто на ўласны
нават шнурок
Наступае.

***

Хто дазваляе вочы
завязаць сабе,
Таму падвяжуць хутка
Й падбародак.

***

У свой час мы
язык прыкусілі,
Ды так, што родную мову
Навек заняло.

***

Ні да Бога,
Ні да волі
Цягі мы пакуль не маем.

***

І ў нас ёсць німб;
Ён, праўда, вакол шыі,
Імя ж яму -- хамут.

***

А гэта талерантнасць --
Дык проста здольнасць
Талеркі
за чужынцамі вылізваць

***

Так, так, мы, можа, й адцвілі
І можа, плод у завязь
Не узяўся.

## СІМФОНІЯ Ў ФАРБАХ

(Заканчэнне.
Пачатак на 7-й стар.).

І наступіць пара, калі над гаротнай краінай, над руінамі і крыжамі панясуцца пад аблокі душы няшчасных пакутнікаў, а высока ў небе з'явіцца распятая на крыжы Справядлівасць, і цень ад яе крыжа працягнецца па ўсёй краіне. А яна, засмучаная і знявечаная ворагамі, будзе ахінутая гэтым страшным ценем, і, куды ні працягнецца ён, усюды стануць чорнымі спаленыя мястэчкі, гарады і вёскі.

Знявечаны сам твар беларускай зямлі. Высечаны векавыя лясы, толькі пні засталіся навокал, ды ўзвышаюцца то тут, то там маўклівыя курганы. Пуста на зямлі. Але затое там, уверсе, пануе таемнае жыццё: зборышча ўкленчаных просіць у неба выратавання ад прыгнёту бязлітасных цёмных сіл.

І ўзнімаецца благаславёны палец, і цёмныя курганы на апусцелай зямлі прыслухоўваюцца і да малення, і да благаславення.

Але над мёртвай, а можа быць, толькі заснуўшай краінай хутка прагучыць першы заклік да вызвалення. Прачнуцца тыя, хто спаў, уваскрэснуць мёртвыя, і мільёны палымяных віцязяў з крыламі на залатых латах панясуцца на конях у апошнюю бітву з цёмнымі і злымі сіламі. Гімн абуджэння зменіцца грознай рапсодыяй нябачнай бітвы. Злыя сілы будуць пераможаны народам, навальніца пройдзе, і над вызваленай і шчаслівай краінай заззяе вясёлка новага жыцця.

Такое тлумачэнне сваім карцінам даваў сам мастак. Казімір Стаброўскі, відаць, прадбачыў не толькі першую сусветную вайну, але і другую, а таксама чарнобыльскую бяду, якія ператварылі і ператвараюць Беларусь у сапраўдную галгофу беларускага народа.

Усё ж жах і шэсце першай сусветнай вайны мастак добра адчуў на сабе. Яго маёнтак у Круплянах быў разгромлены немцамі, а сам таленавіты жывапісец стаў бежанцам, прыхапіўшы з сабою некалькі дзесяткаў сваіх карцін. Ён пры[illegible]ў у Петраград, дзе наладзіў у Таварыстве падтрымкі мастацтваў выставу сваіх прац. Пасля яе заканчэння пераехаў у Маскву. Тут у залах мастацкага салона на Вялікай Дзмітраўцы зноў арганізаваў выставу сваіх карцін, якая зрабіла вялікае ўражанне на мастацкую грамадскасць Масквы. Перадавыя рускія мастакі В.Бяклемішаў, І.Рэпін, В.Матэ і іншыя ўнеслі прапанову на разгляд савета Расійскай акадэміі мастацтваў аб наданні Казіміру Стаброўскаму звання акадэміка жывапісу. Адбылося галасаванне: 16 чалавек прагаласавалі "за", а 19 — "супраць". Ды не ў гэтым справа, а справа ў тым, што творчасць нашага земляка ўжо тады мела вялікую сілу і папулярнасць...

Казімір Стаброўскі быў не толькі мастаком, вучоным і педагогам, але і артыстам. Ён меў нават ступень артыста першай катэгорыі, выступаў на сцэнах многіх тэатраў.

Пражыў наш зямляк крыху больш за пяцьдзесят гадоў. Памёр ад інфаркту ў 1929 годзе. Газета "Кур'ер Варшаўскі" 10 чэрвеня 1929 года пісала: "Памёр вядомы чалавек, знакаміты артыст, энтузіяст усяго прыгожага, слынны арганізатар і філосаф Казімір Стаброўскі... Гэта быў чалавек вялікай працы".

Сапраўды, Казімір Стаброўскі працаваў шмат і пакінуў пасля сябе багатую спадчыну. На жаль, творы яго раскіданы па свеце. Нават цяжка ўявіць, што праз месяц ці праз год, ці праз дзесяць гадоў надарыцца магчымасць наладзіць на яго радзіме — роднай Беларусі ці Навагрудчыне выставу ягоных карцін. Але верыцца ў гэта. І калі каму пашанцуе пабываць у мастацкіх музеях Польшчы, Германіі, Італіі, Расіі, вы сустрэнецеся з карцінамі нашага славутага земляка Казіміра Стаброўскага. Яны вас прыцягнуць маркотнымі вясковымі краявідамі Беларусі, міфалагічнымі вобразамі, драмай і містыкай.

Сяргей ЧЫГРЫН.

## РАДАСЦЬ МАЯ ЯСНАВОКАЯ

*Словы І. ЦІТАЎЦА* *Музыка М. СЛІЗКАГА*



Помніш, калі мы спаткаліся,
Музыка пела навокала.
Ты, нібы зорачка з неба, з'явілася,
Радасць мая яснавокая.

З часу таго незабыўнага
Знікла жыццё адзінокае.
Побач з табою яно закружылася,
Радасць мая яснавокая.

Нашы спатканні гарачыя
Сталі зарніцай далёкаю.
Ты мне ўсё любая, ты мне ўсё мілая,
Радасць мая яснавокая.

Ты, як бярозанька стройная,
Крочыш паходкаю лёгкаю.
Толькі з табою на сэрцы спакойна мне,
Радасць мая яснавокая.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 32. Падпісана да друку 8.1.1996 г.